**Веснік НДА**
**Вестник NGO**
№ 8(23)
жнівень 2000




**БЮЛЕТЭНЬ ВІЦЕБСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГА «ФОНД ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ»**

Заява Каардынацыйнай Рады Дэмакратычных сілаў Віцебска

## Чаму ў Віцебску не святкавалі Дзень Незалежнасці

Грамадзяне горада Віцебска дзеля падрыхтоўкі святкавання найвялікшага для кожнага беларуса свята – Дня Незалежнасці стварылі аргкамітэт. Аргкамітэт распрацаваў адмысловы сцэнар святкавання, галоўную частку якога складалі урачысты сход і святочны канцэрт, прысвечаныя 10-м угодкам Дэкларацыі "Аб дзяржаўным суверэнітэце БССР". Былі знойдзены фундатары, якія ахвяравалі грошы на арэнду памяшкання, запрошаны артысты для ўдзелу ў святочным канцэрце. Былі падрыхтаваны віншаванні і запрашэнні на 600 чалавек.

Аргкамітэт у пошуках памяшкання звяртаўся да кіраўніцтва многіх дзяржустаноў: тэатра імя Я. Коласа, раённага Дома культуры, палаца культуры Таварыства глухіх ды іншых устаноў.

Улічваючы гаротны стан устаноў культуры, іх кіраўніцтва было не супраць арэнды памяшкання, што дазваляла папоўніць небагаты бюджэт. Аднак віцебскія ўлады, якіх не цікавіць эканамічны стан устаноў культуры, забаранілі іх кіраўніцтву даваць памяшканні для святочнай імпрэзы, звязанай з беларускім святам. У выніку такіх дзеянняў віцебскіх чыноўнікаў, што прысвоілі сабе манапольнае права распараджацца т.з. дзяржмаёмасцю, а значыць агульнай для ўсіх, святкаванне Дня Незалежнасці было сарвана.

Такія паводзіны віцебскіх уладаў мы разглядаем у кантэксце антыбеларускай палітыкі: беларускія чыноўнікі не размаўляюць пабеларуску, у гарадскім транспарце не пачуеш абвесткі на беларускай мове, у горадзе і вобласці амаль не засталося беларускіх класаў, забараняюцца беларускія святы. Хутка застануцца толькі два святы: дзень бальшавіцкага перавароту і дзень яднання з Расіяй.

У сувязі з усім вышэйпералічаным Каардынацыйная Рада Дэмакратычных сілаў і аргкамітэт па святкаванню Дня Незалежнасці выказваюць пратэст супраць дзеянняў віцебскіх уладаў, якія сарвалі свята.

***22 ліпеня ў Віцебску адбылося паседжанне Рабочай групы абласной асамблеі няўрадавых арганізацый, дзе былі разгледжаны два асноўныя пытанні:***
***1. Аналіз дайджэста «Свабоднае слова».***
***2. Аб рабоце арганізацый ТБМ па фармаванню нацыянальнай самасвядомасці.***

Матэрыялы паседжання рабочай групы

## Рэкамендацыі па пытанню "Аналіз дайджэста "Свабоднае слова"

1. Для рэдактара неабходна больш увагі звяртаць на эканамічныя матэрыялы. Неэфектыўна друкаваць аб'ёмныя і аналітычныя матэрыялы – пры неабходнасці даваць матэрыял у скарачэнні.
2. Неабходна пашыраць кола выданняў, матэрыялы з якіх трапляюць у дайджэст – "Рабочы", "Наша Ніва", "Свободные новости плюс", "Наша свабода", з часопісаў "Кур'ер", "Архэ".
3. Магчыма раз у месяц даваць хроніку асноўных падзей месяца, аналітычны матэрыял ад кіраўніцтва рабочай групы.
4. Змяшчаць інфармацыю аб недзяржаўных выданнях пад час падпісных кампаній на пачатку месяца.
5. Рэкамендаваць кіраўнікам рэсурсных цэнтраў сістэматычна прапаноўваць артыкулы для друкавання.
6. Штомесячна праводзіць аналіз дайджэста – па графіку.
7. Сябрам рабочай групы садзейнічаць пашырэнню сеткі распаўсюджвання дайджэста: цэнтры гаспадарак, асноўныя прадпрыемствы мястэчак, бібліятэкі.

## Рэкамендацыі па пытанню "Аб рабоце арганізацый ТБМ па фармаванню нацыянальнай самасвядомасці"

1. Распрацаваць праект па арганізацыі сустрэч з беларускімі пісьменнікамі ў раёнах вобласці.
2. Прыняць самы актыўны ўдзел у конкурсе малых грантаў арганізацыям культурна-асветніцкага накірунка.
3. Распрацаваць праект падтрымцы выдавецкай дзейнасці літаратурных і краязнаўчых брашур.
4. Рэкамендаваць у кожным раёне правесці конкурсы сярод настаўнікаў "Рупліўцы роднага слова".
5. Весці актыўную працу з моладззю па стварэнню паэтычных, літаратурных маладзёвых суполак.
6. Пачаць працу па стварэнню памятных знакаў: "Літаратурныя мясціны Віцебшчыны"
7. Сябрам абласной Асамблеі садзейнічаць стварэнню культурна–краязнаўчых аб'яднанняў.

*(Вынікі анкетавання членаў Рабочай групы гл. на 2-й стар.)*

Матэрыялы паседжання рабочай групы

*(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)*

## Вынікі апытання па выданню "Свабоднага слова"

***1. Як Вы ацэньваеце змест дайджэста «Свабоднае слова»:***

0 - выдатна, 5 - добра, 12 - задавальняюча, 1 - незадавальняюча, 0 - дрэнна.

***2. Як вы ацэньваеце вёрстку, дызайн дайджэста «Свабоднае слова»:***

1 - выдатна, 5 - добра, 12 - здавальняюча, 0 - нездавальняюча, 0 - дрэнна.

***3. Перавагу якім матэрыялам трэба аддаваць? (адзначце дзве пазіцыі):***

9 - палітычным, 5 - публіцыстычным, 6 - аналітычным, 0 - культурніцкім, 11 -эканамічным, 5 - сацыяльным, 3 - асветніцкім, 1 - забаўляльным, 0 - крымінальным, 0 - партыйным.

***4. Як Вы ацэньваеце своечасовасць выхаду дайджэста?***

1 - выдатна, 7 - добра, 9 - здавальняюча, 1 - нездавальняюча, 0 - дрэнна.

***5. Ці трэба рабіць штомесячны аналіз зместа, дызайна, сваечаовасці выхаду дайджэста?***

1 - абавязкова, 13 - жадаема, 4 - не трэба.

***6. Як трэба кантраляваць працу валанцёраў?***

10 - праца на даверу, 7 - пісьмовая справаздача, 1 - тэлефоннае апытанне пасля справаздачы.

## Анкетаванне па пытанню: « Аб рабоце арганізацый ТБМ па фармаванню нацыянальнай сасамасвядомасці.»

***1. Як Вы ацэньваеце працу абласной арганізацыі ТБМ па фармаванню нацыянальнай самасвядомасці?***

1- выдатна, 4 - добра, 8 - здавальняюча, 3 - нездавальняюча, 0 - дрэнна.

***2. Якія арганізацыі найбольш паспяхова працуюць над развіццём нацыянальнай самасвядомасці?***

6- краязнаўчыя аб'яднанні, 1 - ЗБС «Бацькаўшчына», 9- ТБМ , 0 - аддзелы культуры РВК, 1 - аддзелы адукацыі РВК, іншае: ніхто- 2, «Сёмая грань» - 1.

***3. Чаму трэба аддаваць перавагу пры фармаванні нацыянальнай самасвядомасці (пазначце дзве пазіцыі)?***

4- артыкулам у друку, 1 - лекцыям, 4- семінарам, 5- краязнаўчым чытанням, 10-сустрэчам з пісьменнікам, 2 - конкурсам, 5 - выданню краязнаўчых брашур, іншае: усё гэта трэба рабіць у школах.

***4. Падтрымку якіх праектаў трэба лічыць прыярытэтнай?***

7-краязнаўчых гурткоў, 7-літаратурна-краязнаўчых чытанняў, 6- выданне брашур, бюлетэняў.

**Усяго ў анкетаванні прынялі ўдзел 18 сябраў рабочай групы.**

### *Ад «Сёмай грані»*

22-га ліпеня "Сёмая грань" правяла чарговае сваё паседжаньне пад агульнай тэмай "XXI-е стагоддзе: Паэт і грамадства".

Гэта быў круглы стол.

Запрошаны былі Вінцэсь Мудроў, Валеры Шчукін, Лявон Баршчэўскі, Віктар Шалкевіч.

Прысутнічалі віцебскія маладыя паэты і пісьменнікі, для якіх і ладзіўся круглы стол, проста моладзь з "Сёмае грані", якая прыйшла паслухаць Віктара Шалкевіча, журналісты (БелаПАН, Народная Воля і інш.) і іншыя, напрыклад, госьці з палітычнага алімпу горада, якія між іншым таксама, бывае, пішуць вершы.

Лявон Баршчэўскі прачытаў кароткую лекцыю пра паэзію, яе элітарнасьць, яе усходні і заходні накірункі і прапанаваў у якасьці заходняга накірунку беларускае паэзіі Віктара Шалкевіча, які сваю лекцыю пад назвай "Я, як прадстаўнік заходняга накірунку беларускае паэзіі" прасьпяваў. Пасьля чаго Вінцэсь Мудроў прачытаў сваё апавяданьне пра цёшчу, якое знайшло нечакана бурны водгук у мужчынскай часткі аўдыторыі. Валеры Шчукін распавёў пра сваю бараду у якасьці сымбалю змаганьня за правы чалавека, а мясцовыя паэты, не баючыся аўтарытэтаў, імкнуліся перацягнуць коўдру на сябе. Карацей, усім спадабалася.

У фінале Шалкевіч працягнуў канцэрт і зьбег пад воплескі на цягнік, бо "сэмігранцы" не хацелі яго выпускаць, прапануючы ўзяць яго як закладніка, а водкуп браць ягонымі касэтамі.

У касе віцебскага вакзала пасьля кароткіх просьбаў Шалкевічу і Шчукіну далі квіткі ў адзін вагон, Віктар сказаў: "Павяжуць нас, павяжуць", а касірка дадала, што калі б пазнала іх крыху раней — то ў адзін вагон не дала б...

### *З Гарадка*

Адбылося пасяджэнне Гарадоцкай Рады ТБМ, на якім прынята рашэнне аб заснаванні Гарадоцкай Радай ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" свайго зарэгістраванага друкаванага органа – культурна-грамадскай газеты "Гасцінец", якая ўжо выходзіць з 1998 года. Па пытаннях рэгістрацыі газеты вырашана супрацоўнічаць з БАЖ.

**Напрыканцы чэрвеня ў г.п. Лёзна адбыўся першы несанкцыянаваны пікет, які правёў настаўнік СШ №2 г.п. Лёзна сп. Міхась Космыкаў, сябра БСДП (НГ). Міхась выйшаў на плошчу перад райвыканкамам з патрабаваннем выплаціць зароблены ім грошы, выплату якіх затрымлівалі ўлады. З'яўленне апазіцыянера з плакатам у цэнтры мястэчка выклікала хуткую рэакцыю мясцовага кіраўніцтва: спачатку да сп. Космыкава падыйшоў кіраўнік мясцовага РАУСа, а потым і загадчык РАА. За дэбатамі назірала каля 20 мясцовых жыхароў. Пасля непрацяглых перамоў былі выплачаны грошы настаўнікам СШ №2 за папярэдні час, а таксама пачалі выплачваць грошы і за водпуск.**

**На жаль, ніхто з іншых настаўнікаў да акцыі сацыял-дэмакрата не далучыўся, а толькі атрымаў плады дзейнняў апазіцыянера.**

### *З Паставаў*

15 ліпеня ў Паставах адбылося супольнае ўрачыстае паседжанне раённай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны, Пастаўскага краязнаўчага таварыства, раённага аддзялення БАЖ, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры, земляка Уладзіміра Дубоўкі. На ім было распаведзена пра жыццёвы і творчы шлях паэта, прачытаны яго некаторыя вершы. Затым мясцовыя паэты знаёмілі прысутных са сваімі новымі творамі. У гэты ж дзень некаторыя з удзельнікаў імпрэзы пабывалі ў вёсцы Агароднікі – радзіме паэта, дзе знаходзіцца яго хата.

Адмыслова для юбілею быў надрукаваны артыкул пра радзіму паэта – вёску Агароднікі, сучаснае яе жыц-

***(Працяг на 3-й стар.)***

# Віцебск - Нінбург. Кантакты працягваюцца

Группа моладзі з віцебскіх НДА і палітычных партый наведала ў ліпені горад-сябра Віцебска ў Германіі Нінбург. Моладзь наведала ў Нінбургу незалежны прафсаюз, маладых сацыял-дэмакратаў, правяла колькі іншых сустрэч. Удзельнікі паездкі зазначылі пашырэнне кантактаў паміж недзяржаўнымі арганізацыямі гарадоў.

Акрамя таго моладзь азнаёмілася з працай вучэбнага цэнтра прафсаюзаў у гарадку Цэлле і прыняла ўдзел у трохдзённым семінары.

Гаспадары з Германіі выразілі зацікаўленасць і атрымалі інфармацыю пра сітуацыю ў Беларусі, пра дзейнасць НДА, палітычных партый, прафсаюзаў.

Моладзь з Беларусі ў сваю чаргу азнаёмілася з маладзёжнай палітыкай у Германіі і дзейнасцю моладзевых арганізацый.



*«Беларускі» корпус у вучэбным цэнтры ў Цэлле*



*«ЭКСПА-2000» - горад-будучыня*

***(Працяг. Пачатак на 2-й стар.)***

цё ў двух нумарах незалежнай газеты “Сумежжа”.

**“Юнацтва ў збаўленні” – 2000 , пад такім назовам з 24 па 29 ліпеня на тэрыторыі Пастаўскага раёна у вёсцы Шыркі каля возера Світа, на базе Біблейскага цэнтра “Збаўленне”, прайшоў міжнародны маладзёжны хрысціянскі злёт.**

**На злёце адбываліся служэнні пастараў, захапляльныя семінары на актуальныя маладзёжныя тэмы, творчыя вечары з удзелам хрысціянскіх музычных груп і выканаўцаў, спартландыя, хуткасны заплыў і спартыўныя спаборніцтвы па футболу і валейболу.**

**Адна важная падрабязнасць: арганізатары ў дзень заезду прасілі дапамагчы ахвяраваннямі ў памеры 10$ на чалавека.**

Прадстаўніцтва італьянскага фонду “Дапаможам ім жыць”, якое знаходзіцца ў Мінску, выдзеліла гуманітарную дапамогу дзіцячым прытулкам. Ёсць такі прытулак і ў Пастаўскім раёне пры Варапаеўскай дапаможнай школе, у якім зараз знаходзіцца 18 чалавек. З Італіі груз быў дастаўлены ў Маладзечна, а адтуль яго забіралі кіраўнікі многіх прытулкаў. Як заўсёды дзяржаўнага транспарту не знайшлося і, толькі дзякуючы мясцоваму прадпрымальніку, які згадзіўся задарма з’ездзіць, груз быў дастаўлены па прызначэнню.

Каля 5 тон грузу – прадукты харчавання, мыйныя сродкі, іншыя неабходныя дзецям рэчы – былі дастаўлены ў Варапаева без асаблівых праблем, але яны ўсё роўна ўзніклі пасля таго, як стала вядома, што абавязкова патрэбен сертыфікат. Выдаць жа яго можа Полацкі цэнтр стандартызацыі і метралогіі пасля адпаведнай экспертызы раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. І вось чакаюць сіраты вынікаў экспертызы, а есці то ўсім хочацца...

**На працягу многіх гадоў педагагічны калектыў, выхаванцаў Пастаўскай сіроцкай школы-інтэрната звязваюць цесныя сувязі з мэрыямі, жыхарамі Сант-Арэстэ, Рэньена Фламінія і некаторых іншых гарадоў Італіі. Два разы ў год дзеці адпачываюць у гэтых цудоўных мясцінах, набіраюцца сіл, здароўя. Не забываюць італьянцы сваіх юных сяброў і ў Паставах, прыязджаючы сюды з падарункамі, гуманітарнай дапамогай.**

**І вось з 7 па 14 ліпеня па запрашэнню мэра Сант-Арэстэ М.Сагоні Італію наведала дэлегацыя Пастаўскай раённай адміністрацыі, на чале са старшынёй райвыканкама Вандай Януковіч. Мэта візіту – устанаўленне статуса гарадоў-пабрацімаў, умацаванне далейшых сувязяў.**

**Вынікам візіту з’явілася падпісанне пагаднення з мэрамі гарадоў Рэньена Фламінія і Сант-Арэстэ аб развіцці далейшага супрацоўніцтва ў галіне сацыяльнай сферы.. У верасні 2000 года ў Паставы чакаецца прыезд афіцыйнай дэлегацыі з італьянскага боку.**

Вельмі цікавым для аматараў краязнаўства атрымаўся чарговы двайны нумар дадатка “Краязнаўца Паазер’я” да газеты NGOs Заходняй Віцебшчыны “Крэсы”, які пабачыў свет у ліпені. Тэма нумару: “Камяні і дрэвы” – помнікі прыроды, якія знаходзяцца на тэрыторыі Глыбоцкага, Браслаўскага, Мёрскага і Пастаўскага раёнаў.

# Читайте «Народный предприниматель»!

Вышел 10-й номер газеты предпринимателей Полоцкого региона “Народный предприниматель”. Редакция располагается в г. Новополоцке. Первый номер “НП” вышел в январе 2000 года. Газета выходит два раза в месяц тиражом до 3000 экземпляров. Распространяется главным образом на рынках, но уже получен подписной индекс – 63639 в разделе “Областные издания”. В ближайшее время будет объявлена подписка. Редактор газеты – Валерий Шевченко, индивидуальный предприниматель, председатель, Независимого профсоюза частных предпринимателей г. Новополоцка. В профсоюз входят и предприниматели рынков г. Полоцка. В перспективе газета должна получить статус республиканского издания и выходить еженедельно.

“Народный предприниматель” – одно из официальных изданий демократического направления в Витебской области. Его цель – защита прав и социально-экономических интересов предпринимателей, становление рыночной экономики, поддержка активной гражданской позиции, демократизации жизни. В газете можно найти выступления на актуальные политико-экономические темы, теоретические материалы, очередные публикации социально-экономического очерка “Народное предпринимательство Беларуси. Трудный путь становления”, информационно-аналитические корреспонденции о деятельности демократических организаций и независимых профсоюзов Витебской области и республики и многое другое.

***В. Шевченко***

# ВІК У ВІЦЕБСКУ

27 ліпеня Віцебск наведаў кіраўнік Кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ па Беларусі Ханс-Георг Вік. У першай палове дня ён меў сустрэчу з мясцовымі уладамі.

У другой палове – ён сустрэўся з прадстаўнікамі палітычных партый і недзяржаўных арганізацый. Прычым запрошан быў шырокі спектр: ад камуністаў да БНФ.

Трэба адзначыць, што ўлады рабілі ўсё магчымае, каб гэтая сустрэча не адбылася. Арганізатары сустрэчы звярталіся па чарзе ў Культурна-дзелавы Цэнтр ААТ "КІМ", дырэкцыю гарацкога цэнтра культуры, арт-цэнтр М.Шагала па арэнду памяшкання для сустрэчы. Ва ўсіх месцах чакаў адказ. Тым ня меньш, сустрэча адбылася. Акрамя спадара Віка на ёй прысутнічаў былы спікер ВС 12 скліканння, дэпутат ВС 13 склікання М. Грыб.

Асноўная размова на сустрэчы ішла пра маючыя адбыцца восеннюю гэтага года парламенцкія выбары. Спадар Вік азнаёміўся з пазіцыяй віцебскіх дэмакратаў (камуністы адмаўчаліся) і са структурай і спектрам трэцяга сектара Віцебшчыны.

## З Наваполацка

Шмат хто на Беларусі ведае, што адно з найпрыгажэйшых сьвяткаваньняў традыцыйнага сьвята Купальле ладзіцца на Полаччыне. Прычым традыцыйнага не ў сэнсе перыядычнасьці, а як раз традыцыйнага па форме сьвяткаваньня. Бо, як вядома, адным з ідыёлягаў і практычна нязьменным асноўным арганізатарам зьяўляецца Васіль Храмцоў – апантаны і пасьлядоўны прапагандыст архаічных беларускіх традыцыяў.

А купальская традыцыя вельмі старажытная. Вытокі яе сягаюць яшчэ ў родавае грамадства, у часы паганства (язычніцтва). Прымяркоўваюцца купальскія ўрачыстасьці да летняга сонцастаяньня і сьвяткуюцца ў гонар сонца. Шмат што зьмянілася ў гісторыі нашага краю за гэты доўгі перыяд часу. Але традыцыйна хлопцы і дзяўчаты ў гэты перыяд наладжваюць гэтае непаўторнае дзейства, каб хоць на невялічкі час адыйсьці ад будзённасьці і аддаць павагу бачным і нябачным сілам прыроды, непавага да якіх можа прынесьці шмат дрэннага й непапраўнага.

Другі год запар Полацкае купальле сьвяткуецца на маляўнічым беразе возера Наўліца сярод дубоў-волатаў, што надае сьвяту асаблівую пагунскую адметнасьць.

Як і заўсёды, на сьвяткаваньне сабраліся не толькі нашчадкі полацкіх крывічоў. Былі госьці зь Віцебску, Бярэсьця й Менску. Сярод гасьцей быў старшыня БНФ "Адраджэньне" Вінцук Вячорка з жонкай і дзецьмі.

Само сьвята па водгуках удзельнікаў было найлепшым за апошнія гады. Тым, хто патрапіў упершыню на гэтае, часам містычнае, дзейства здавалася, што дакладнасьць сцэнару рэгулюе нейкая пабочная ўсемагутная сіла. Гэтага варта толькі здабываньне жывога агню і распальваньню пяці вогнішчаў роўна а 12 гадзіне ночы. А было яшчэ шмат цікавага, захапляльнага, прыгожага й проста прыемнага. І што ёсьць самым галоўным на купальлі, гэта тое што, нягледзячы на шматвекавую традыцыю, гэтае сьвята не выглядае занадта кананізаваным, дазваляе і нават стымулюе разнастайныя імправізацыі. А гэта спрыяе таму, што кожны ўдзельнік, нават калі ён патрапіў сюды ўпершыню, не адчувае адарванасьці ад агульнай грамады.

Адным словам "Полацкае Купальле – 2000" цалкам удалося. Раніцай удзельнікі сьвята, ачысьціўшыся вадой і агнём ад накопленых за год грахоў, крыху стомленыя, але ў добрым настроі разьязджаліся з безумоўнай надзеяй на сустрэчы на старадаўняй крывіцкай зямлі.

Вялікую дапамогу пры падрыхтоўцы Купальля аказаў мясцовы фермер зь вёскі Дубнякі Феактыст Фядотаў.

**Наваполацкай гародской газэтай "Химик" на пярэдадні сьвятаў 3 ліпеня праведзена міні-апытаньньне аб тым што думаюць людзі аб сьвятах прымеркаваных да гэтай даты. Дык вось высьветлілася, што ў асноўным для ўсіх удзельнікаў апытаньня гэты дзень зьяўляецца днём вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашыстоўскіх захопнікаў. Зь Днём Рэспублікі, а тым больш зь Днём незалежнасьці гэты дзень практычна ніхто не зьвязвае. У адказах былі й такія, што, мякка кажучы, гэты дзень ні на якія Дні Рэспублікі не цягне. Такія вось адносіны наваполачанаў да чырвоных пострэферэндумскіх датаў.**

У мінулым годзе ў гаспадрках Полацкага раёна была вельмі нізкая забясьпечанасьць кармамі жывёлы ў калгасах і саўгасах (што ў прынцыпе адно й тое ж). На завоз кармоў з-за межаў вобласьці было патрачана столькі грашовых сродкаў, што іх магло б хапіць на набыцьцё 68 трактароў (па тры на кожную гаспадарку савецкага тыпу).

Каб у гэтым годзе не паўтарылася леташняя гісторыя Полацкі райвыканкам прыняў чарговае геніяльнае рашэньне. Яно, праўда, не вызначаецца арыгінальнасьцю, бо падобныя рашэньні вядомы да болі кожнаму чалавеку, якому было наканавана нарадзіцца й жыць у Савецкім Саюзе. Вось і зараз дзеячы раённага маштабу, застаючыся заўзятымі пасьлядоўнікамі савецкіх традыцыяў і калгасна-саўгаснага будаўніцтва, распараджэньнем раённага выканкаму давялі заданьне ўсім прадпрыемствам і арганізацыям раённага падпарадкаваньня па нарыхтоўцы кармоў. У сярэднім кожнаму працаўніку належыць нарыхтаваць не меней 300кг сена.

А старшыня райвыканкаму сп. Іван Каросьцік ў сваю чаргу ад свайго імя зьвярнуўся таксама да кіраўнікоў і калектываў прадпрыемстваў і арганізацыяў Полацка і Наваполцка з просьбай, каб кажны гараджанін з глыбокім разуменьнем аднёсься да выкананьня заданьняў па нарыхтоўцы кармоў і дапамог сялянам забясьпечыць імі грамадскае пагалоўе.

Вось так, ні больш ні менш. Усё проста і зразумела. І навошта нейкія там апазыцыянеры распачынаюць нейкія гаворкі аб нейкіх незразумелых рэформах. Куды лягчэй давесьці план па нарыхтоўцы сена, а потым магчыма й яшчэ чаго гараджанам і пытаньне вырашана. А ў наступным годзе яшчэ раз прадубляваць гэтае бясспрэчна "гістарычнае і геніяльнае" рашэньне і сьпяшацца рапартаваць самому галоўнаму зь "вертыкалі ўлады" аб чарговых пасьпехах у паляпшэньні жыцьця любімага электарата.

## Тэрмінова ў нумар!

**24 ліпеня 2000 года ў аддзяленні юстыцыі Віцебскага аблвыканкама было зарэгістравана грамадскае аб'яднанне «Цэнтр маладзёжных ініцыятываў «Контур». Варта адзначыць, што дакументы на рэгістрацыю былі пададзены амаль год таму. ЦМІ «Контур» існуе з 1998 года як грамадская ініцыятыва. Мы лічым, што рэгістрацыя, якая надае нам легальны статус, адкрывае новыя магчымасці ў дасягненні мэтаў і задач нашага Цэнтру.**

Рэдакцыйная калегія: Б. Алінін, Х.С. Жалпаў
Камп'ютэрны дызайн і вёрстка: Б. Алінін
Адрас рэдакцыі: 210015 Віцебск, пр-т Чарняхоўскага, 12-17, тэл/факс: (0212) 22-49-25
Распаўсюджваецца бясплатна
Выдавец: Віцебскае аддзяленне ГА «Фонд імя Л. Сапегі»
Наклад 160 паасобнікаў
Для унутранага карыстання